


Восень у Міхалове. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 44 (1151) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 4.XI.1979 г.



# ДА ШЧАСЦЯ ПРАЗ КАСТРЫЧНІК

*У следапытаў многа спраў,*
*Турбот заўжды багата.*
*На збор аднойчы нас сабраў*
*У верасні важаты.*
**— Які, скажыце, ўрад і дзе**
**У свеце самы першы**
**Узнагароджваць стаў людзей**
**За сталь, за хлеб, за вершы?**
*Спярша задумаліся ўсе,*
*А потым нейк адразу*
*З нас кожны шпарка, па чарзе*
*Пачаў даваць адказы.*
*— Урад той створан быў у дні,*
*Калі пад гром „Аўроры“*
*Расіі слаўныя сыны*
*Змялі царызм і гора.*
*Вялікі Ленін іх павёў,*
*Адважных, у паходы*
*Да самых слаўных заваёў —*
*Да міру і свабоды.*
*— Плыў з шахтаў вугаль на-гара,*
*І сталь лілася з домнаў.*
*І ордэны Савецкі ўрад*
*Рабочым даў нястомным.*
*— Калі ж камбайны на палі*
*Павёў калгаснік горды,*
*Тады за хлеб яму ў Крамлі*
*Уручылі першы ордэн.*
**— За што найлепшыя сыны**
**Бясстрашшам ганарацца,**
**З пашанай носяць ордэны,**
**Што, як агонь, іскрацца?**
*— Калі фашыст каварны ўдар*
*Нанёс улетку ў Брэсце,*
*Байцы стаялі твар у твар —*
*Ні крок з паста, ні з месца!*
*— Пасля на ўсіх фашыстаў жах*
*Наводзілі з засадаў*
*Лясная армія Каржа,*
*Заслонава атрады.*
*Іх сотні, тысячы былі —*
*Адважных, мужных, стойкіх.*
*За гэта ім далі ў Крамлі*
*І ордэны і зоркі.*
**— Здзяйсненні краю ўсім відны.**
**Дык хто з вас мне адкажа:**
**За што на сцягу ордэны**
**У Беларусі нашай?**
*За працу, што яшчэ тады,*
*У гадах былых, трыццатых,*
*Свае ўзнімала гарады,*
*Свае ўзнімала хаты.*
*— Злучыла рэчак берагі*
*Мастамі гідрастанцый.*
*Тады ёй ордэн даў другі*
*Савецкі ўрад за працу.*
*— Усё рабіла для людзей,*
*Што скінулі аковы.*
*Пасля спраўляла юбілей*
*Свой слаўны паўвяковы.*
*Была рэспубліка мая*
*Ў баях і працы цвёрдай —*
*За гэта па-над ёй заззяў*
*Як сонца, трэці ордэн.*

**(У скарачэнні)**

**Ул. Нядзведскі**

# ЧЫТАЕМ і пішам

# Ч Б

б б б б б б б б б б б б б аб бр

ба бо бу бы бэ бі бор бой

боль боты бусел бульба

Ч Ч Ч Ч Ч Ч Ч Б Б Б Б Б Б Б

В В В Зіна Брэст Беларусь

ч ч ч ч ч ч ч ч ч ч ч ч

ноч чмель шапоча чарот чый

Пішы чыста. Трымай у парадку свае рэчы: пенал, кніжкі, сшыткі.

ч ч ч ч ч ч ч ч ч ч

Г. Мароз

# ВЫБУХ

— Татка, татачка! Паглядзі, што я знайшоў! — крычыць Алік. Ён сёння з намі ў полі. Абяцаў, што будзе бульбу збіраць. Толькі штосьці яму не хочацца. Кажа, што кулю знайшоў. — Татка, сапраўдную кулю, нават не паржавелую. Напэўна і порах сухі, — разважае сын. — Трэба яе падпаліць. Агонь прыгожы будзе!

— Ой, сынок, сынок. Выкінь ты гэтую кулю. Хай яна тут прападае. Гэта ж, сынку, чыясь смерць.

— Як гэта, татка, смерць? — здзіўлена пытае сын.

— А так, сынку. У час вайны такімі кулямі людзі адны другіх забівалі.

— А завошта, татка? Кожны ж хоча жыць!

— Так яно і ёсць. Але не ўсе так разважаюць. І нападаюць адны на другіх. І гэтую кулю згубіў вораг, калі ўцякаў з нашай зямлі. А вось быў тады ў нас такі выпадак. Гналі фашыстаў з нашай зямлі савецкія воіны. Вырваліся два савецкія танкі наперад. Тут іх на нашым полі і падбілі немцы. Яны загарэліся...

— А з людзьмі што сталася, што былі ў танках? — запытаў сын.

— Гэтага я, сынок, і не ведаю. Кажуць, што яны загінулі. У ваколіцы разгарэўся бой. Людзі не маглі падысці да танкаў. Потым вайна закончылася. Вярнуліся салдаты з вайны. Выйшлі на поле. А танкі так і стаялі на тым самым месцы. Прыпаміналі мінулае. Я тады быў яшчэ малы. Меў я тады сябра Васілька. Мы з ім разам праводзілі цэлыя дзянькі. І не раз бегалі гуляць да танкаў. Так, каб бацькі не ведалі. Там мы былі танкістамі. „Стралялі“ ў немцаў, былі „параненыя“ і „забітыя“. Бралі адзін другога ў палон. А часам корпаліся ў згарэлых танках. Так было і ў той дзень.

Дзень выпаў сонечны, пара такая, як цяпер. Бульбу капалі. Прыбеглі мы да танкаў, як заўсёды. Я пачаў корпацца ў адным танку, а Васілька панясло ў другі. Не магу, сынку, далей гаварыць...

— Дакажы, татка, — просіць сын.

— Не магу, у горле штосьці душыць...



— Кажы далей, — тварык сына крывіцца да плачу.

— Раптам я пачуў страшэнны выбух. Выскачыў я з танка, а Васілёк трымаецца за жывот і енчыць. Што рабіць? Я бягом да яго маці з крыкам:

— Цётка, вашага Васілька забіла!..

Захоплены ўспамінамі, я замоўк. А Алік мяне падганяе:

— А што далей? Што з Васільком?

— Памёр ён, сынку. Павезлі яго жалезняком у бальніцу і не давезлі.

— А чаму ж па лекара не пазванілі? — дакарае мяне Алік.

— Не было ж тады яшчэ ні тэлефона, ні лекара паблізу. Гэта ж тады толькі што вайна скончылася.

— А чаму, татка, Васілька раніла? — дапытваўся малы.

— А таму, сынок, што ён таксама быў цікавы і, корпаючыся ў танку, раскруціў снарад. Гэта такая куля да танка.

— Дык гэта яна Васілька забіла?

— Так, сынку. Таму памятай: нічога знойдзенага не трэба разбіраць. Можа выбухнуць.

Алік згодна ківае галавой. А потым пытаецца:



— Татка, а дзе ж цяпер тыя танкі?

— Даўно, сынок, іх парэзалі і пераплавілі на што іншае. На трактары, плугі. Каб было чым зямлю араць, хлеб расціць і вас гадаваць.

— Татка, паглядзі, — малы паказаў мне абедзве раскрытыя далоні. Яны былі пустыя.

— Добра, хлопчык мой, добра. Гуляй сабе, а я пайду капаць.

**М. Хведаровіч**

# БАРСІК

*Як на нашага ката*
*Ды напала глухата,*
*Спіць ён на палацях*
*Цэлы дзень у хаце.*

*Людзі кажуць у двары:*
*— Барсік ваш зусім стары,*
*Мабыць, нездаровы*
*І мышэй не ловіць...*

*А нам Барсіка шкада:*
*Мама кажа: — Не бяда.*
*Хай ляжыць на печы,*
*Мы яго падлечым.*

*Будзе кожны дзень зімой*
*Піць ён цёплы сырадой*
*Ад нашай каровы, —*
*Стане ён здаровы.*

*Барсік чуе і маўчыць,*
*Вочы лень яму адкрыць.*
*Пра што кажуць — знае,*
*Хвосцікам віляе.*





# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## БЯСПЛАТНАЕ АБАГРАВАННЕ

Спачатку было расчараванне: замест прадказанага геолагамі „чорнага золата" з глыбінь зямлі пырснула звычайная вада. Мэр невялічкага аўстрыйскага гарадка Вальтэрсдорф Карл Кайзер засумаваў. Столькі грошай патрацілі на шчыліну глыбінёй 1250 метраў, столькі надзеі ўскладалі ў сувязі з энергетычным крызісам, калі цэны на нафту растуць...

Але тут бурыльшчыкі паведамілі, што вада не звычайная, а даволі гарачая — яе тэмпература дасягала 61 градуса. І тут Карл Кайзер уцешыўся: не знайшлі нафты, дык хоць будзе ашчаднасць на абаграванні будынкаў. Спачатку гарачую ваду пачалі выкарыстоўваць для абагравання школы, прадшколля і плавальнага басейна, а ў будучыні ўсю абагравальную сістэму горада вырашылі перавесці на геатэрмальную крыніцу энергіі.

## ПАДВОДНЫ АЎТАМАБІЛЬ

Італьянец Груа лічыць, што сучасны аўтамабіль яшчэ не ўсё паказаў, што павінен умець. Груа вырашыў зрабіць такі аўтамабіль, які не баіцца вады і праходзіць па дну ракі, не патрабуючы мастоў. Груа дарабіў да свайго аўтамабіля спецыяльную канструкцыю, апрануўся ў вадалазны касцюм і на вачах вялікай групы гледачоў пераехаў без перашкод возера Гарда. Машына пасоўвалася па дне возера з хуткасцю 5 кіламетраў у гадзіну. Усё абышлося вельмі добра, калі не лічыць прастуды вынаходцы.

---

## НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

# КАЛІ Б НЕ ЎРОКІ...

*На сцэне пяцікласнікі Віця і Славік. Віця гартае задачнік па алгебры. Славік нешта запісвае ў сшытак.*

С л а в і к. Як многа цяпер урокаў задаюць!

В і ц я. Больш чым нам, пяцікласнікам, нікому не задаюць.

С л а в і к. Ну, кажаш... А студэнтам?

В і ц я. Студэнтам заданняў на дом не задаюць.

С л а в і к. Цудоўна!

В і ц я. Студэнтам добра. Здаў экзамены і займайся чым хочаш, а ў нас... Лепш і не казаць!

С л а в і к. Нават страшна падумаць! Пакуль мы ад раніцы да вечара сядзім над урокамі, нехта едзе на Антарктыду, праводзіць ваду ў пустыню, будуе чыгунку і нават ляціць на другую планету!

В і ц я. І не кажы! Я б хоць зараз паляцеў. Але праўду кажучы, больш за ўсё мне хочацца быць паляўнічым на тыграў.

С л а в і к. Я папрасіўся б у кругасветнае падарожжа на парусной лодцы...

В і ц я. Вось добра было б!

С л а в і к. Уяві сабе: акіян, зямля за сотні кіламетраў...

В і ц я. Міляў...

С л а в і к. Што?

В і ц я. За сотні міляў...

С л а в і к. Ды гэта няважна! Вакол адна салёная вада, а ў нас канчаюцца запасы харчоў і вады для піцця. Уяўляеш?

В і ц я. Ага...

С л а в і к. І тады, у самы апошні момант, я ўстаю і кажу: „Трэба зрабіць апрэснівальнік".

В і ц я. Што гэта такое?

С л а в і к. Апрэснівальнік — гэта такое прыстасаванне, пры дапамозе якога з салёнай марской вады можна атрымаць прэсную, пітную. Зразумеў?

В і ц я. Ух ты! Як жа ж гэта робіцца?

С а в і к. Вельмі проста. Бярэш... *(Задумваецца)*.

В і ц я. Ну?

С л а в і к. Не перашкаджай. Бачыш, задачку рашаю...

В і ц я. Эх ты! „Я ўстаю! Я кажу!" Вось у мяне ў дзікай тайзе. Ідзеш па слядах тыгра, а вакол матылькі лётаюць, птушкі спяваюць. То зязюля разы два свісне, то іншая птушка выскачыць з-пад ног... Во-о...

С л а в і к. Дарэчы, зязюля кукуе, падарожнік!

В і ц я. Ну і няхай. Нешта ў нас не выходзіць... Нічога... Галоўнае, урокаў на дом ніхто не задае.

С л а в і к. Правільна. Што ні кажы, а ў акіяне куды цікавей. Не верыш? Можаш спытаць майго дзядзьку — капітана далёкага плавання.

В і ц я. Ну і што? А вось мой дзядзька — вучоны-заолаг. Ён працуе ў запаведніку. Вось дзе цікава! А то нейкая там лужына...

С л а в і к. Па-твойму, акіян — гэта лужына? Так? Эх ты! *(Адварочваецца да Віці плячыма).*

В і ц я. Славік. Слаў... Я ж не хацеў цябе пакрыўдзіць... Прабач... Згода?

С л а в і к. Добра, добра! Слухай, пайшлі ў кіно...

В і ц я. А заўтра па алгебры зноў плаваць будзеш? У акіяне на парусной лодцы?

С л а в і к. А ты ў трох соснах заблудзішся? *(Абодва рагочуць).*

В і ц я. Калі б не ўрокі...

С л а в і к. Махнулі б мы з табой далёка-далёка...

В і ц я. І паглядзелі б мы з табой розныя краіны...

Р а з а м *(у залу).* Па тэлевізары!



# Пазнаёмімся

* ✲ *

Іра Ігнатовіч, 11 гадоў, г. Бельск-Падляшскі 17-100, вул. Сянкевіча 3а, кв. 8.

* ✲ *

Анна Сцепанюк, 12 гадоў, в. Малінніκі 173, пошта 17-136 Грыгароўцы, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Багуслава Ляўша, 16-050 Міхалова, Пляц Дваццацігоддзя 40, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Крыся Падляшчык, Скупава 80, пошта 17-220 Нараўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 246028, г. Гомель-28, вул. Падгорная, 133б, кв. 1. Верабей Лена, 14 год.

* ✲ *

СССР, г. Ростов на/Дону, II пос. Орджоникидзе, ул. 12 Декабря, дом 54. Рогожину Николаю. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, 692100, г. Дальнереченск, ул. Приморская, 26. Чурпакова Света. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Ярэк Ляшкевіч, вучань пятага класа, в. Навіны 9, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Іра Крэнтоўская, 15 год, і Галіна Крэнтоўская, 17 год, в. Сушча 14, пошта 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 28 квартал, дом 9, кв. 68. Саадян Ирина. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

# ЗАГАДКІ

**Яго штурхаюць пад бакі,**
**І б'юць яго нагамі,**
**А ён, вясёленькі такі,**
**Гуляць ахвотны з намі.**

# АДГАДАНКА






**Разгортка якога кубіка адлюстравана наверсе?**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**